№7(151)
Красавік 2004

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна"

## FIDH заявіла пра ліквідацыю незалежнай грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі

13 красавіка ў Жэневе ў Палацы Нацыяў паралельна з працаю Камісіі па правах чалавека ААН адбыўся брыфінг "Правы чалавека ў Беларусі". На брыфінгу прысутнічалі прадстаўнікі афіцыйных дэлегацыяў краінаў і НДА, якіх зацікавіла гэтая тэматыка. З апісаньнем сітуацыі ў галіне абароны правоў чалавека ў Беларусі выступілі старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі, Генеральны сакратар FIDH (Міжнародная Федэрацыя Правоў Чалавека) Філіп Кальфаян, прадстаўнік Міжнароднай Лігі Правоў Чалавека ў Жэневе Аляксей Каратаеў.

Падчас брыфінгу Ф. Кальфаян прадставіў даклад Міжнароднай юрыдычнай назіральнай місіі "Беларусь – ліквідацыя незалежнай грамадзянскай супольнасьці" па выніках візіту назіральнай місіі FIDH у Беларусь у кастрычніку 2003 году.

## Шырын Эбадзі наведае Беларусь

13 красавіка старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі быў запрошаны на сустрэчу з нобелеўскай лаўрэаткай міру 2003 году, прэзідэнтам Цэнтру абароны правоў чалавека ў Іране Шырын Эбадзі. Падчас сяброўскай гутаркі Алесь Бяляцкі праінфармаваў спадарыню Эбадзі пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Дасягнутае папярэдняе пагадненьне аб прыезьдзе Шырын Эбадзі ў Беларусь у 2005 годзе.



Менск, 6 красавіка 2004 г. Дзень памяці Генадзя Карпенкі...

# Куба, Судан, Конга... Беларусь

### *Камісія па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў прызначыла Сьпецыяльнага дакладчыка па Беларусі ў сувязі са шматлікімі парушэньнямі правоў чалавека ў нашай краіне*

У ходзе падрыхтоўкі да чарговага пасяджэньня Камісіі па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў прадстаўнікі шэрагу дзяржаваў выступілі з прапановай аб увядзеньні пасады Сьпецыяльнага дакладчыка ААН па правах чалавека ў Беларусі. Такім чынам, Беларусь можа патрапіць у адзін шэраг з такімі краінамі, як М'янма, Конга, Сьера-Леонэ, Куба і Судан, дзе парушаюцца правы чалавека.

У гэтыя дні ў Камісіі па правах чалавека ААН адбываецца падрыхтоўка да чарговага пасяджэньня гэтага органу. У парадку дня сесіі Камісіі стаіць і пытаньне аб парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі. У рэзалюцыі ад 17 красавіка 2003 году «Стан правоў чалавека ў Беларусі» Камісія абвясьціла аб сваім намеры вярнуцца да беларускага пытаньня.

У праграме падрыхтоўкі да сесіі адбываюцца гэтак званыя Паралельныя Сустрэчы (Parallel Meetings), у ходзе якіх прадстаўнікі розных дзяржаваў у Камісіі знаёмяць публіку са сваёй пазіцыяй. 6 красавіка падчас дзьвюх з такіх сустрэчаў былі агучаныя намеры некаторых дзяржаваў ініцыяваць надзвычай жорсткія меры рэагаваньня Камісіі ў дачыненьні да парушэньня правоў чалавека ў Беларусі.

Так, на Паралельнай Сустрэчы, што ладзілася прадстаўніком Злучаных Штатаў, сярод іншага было адзначана, што рэжым прэзідэнта Лукашэнкі нічым не адрозьніваецца ад рэжыму ў Судане, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі зьяўляецца катастрафічнай.

Гэткі пункт гледжаньня атрымаў працяг на Паралельнай Сустрэчы, што ладзілася сумесна прадстаўнікамі ЗША і іншых краінаў-сяброў Камісіі. Як паведамляе прысутны на мерапрыемстве прадстаўнік праваабарончых арганізацыяў Грузіі Гіві Міканадзэ, шараговае працоўнае пасяджэньне ператварылася ў сапраўдную бойку – настолькі бурнай была спрэчка па "беларускім пытаньні", настолькі рэзкімі былі выказваньні ўдзельнікаў.

Агучаны праект Рэзалюцыі па Беларусі мае надзвычай крытычны і вельмі востры тон, у ім наўпрост крытыкуецца прэзідэнт Лукашэнка і ягоны рэжым, падкрэсьліваецца становішча са зьнікненьнем людзей, перасьледам няўрадавых арганізацыяў, адсутнасьці свабоды слова, свабоды веравызнаньня і справядлівых выбараў. Асобна асуджаецца выпадак з ліквідацыяй Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа.

Адным з самых цікавых момантаў у праекце Рэзалюцыі зьяўляецца прапанова Злучаных Штатаў аб стварэньні

(Працяг на стар. 2)

# Куба, Судан, Конга... Беларусь

(Пачатак на стар. 1)
новай пасады – Сьпецыяльнага дакладчыка па правах чалавека ў Беларусі. Калі гэтая прапанова знойдзе падтрымку ў большасьці сяброў Камісіі, Беларусь патрапіць у адзін шэраг з тымі краінамі, у якіх сітуацыя з правамі чалавека асобна кантралюецца прызначаным ААН Сьпецыяльным дакладчыкам, такімі краінамі, як М'янма, Конга, Сьера-Леонэ, Куба і Судан.

У адказ на гэтую прапанову прадстаўнік Рэспублікі Беларусь заявіў, што ў праекце рэзалюцыі праводзіцца палітыка падвойных стандартаў, і што прыкрываючыся правамі чалавека, Злучаныя Штаты і Еўрасаюз хочуць умяшацца ва ўнутраныя справы Беларусі, парушыць яе суверэнітэт. У якасьці прыкладу выкананьня ў Беларусі агульнапрынятых стандартаў правоў чалавека прадстаўнік Беларусі прывёў факт запрашэньня урадам краіны сьпецыяльнай рабочай групы ААН па праблеме папярэдняга зьняволеньня, якая павінна наведаць Беларусь з інсьпекцыяй у гэтым годзе. Пазіцыю Беларусі падтрымалі Кітай і Расія.

Прадстаўнікі Арменіі і Японіі, згодныя з агульным зьместам праекту рэзалюцыі, адзначылі, што прызначэньне Сьпецыяльнага дакладчыка зьяўляецца крайняй мерай, якую яны лічаць неадэкватнай становішчу ў Беларусі. Гэтыя краіны адзначылі, што не падтрымаюць увядзеньне гэтай пасады. Пазіцыя Украіны засталася неакрэсьленай, паколькі прадстаўнік гэтай краіны папросту зьбег з залы, калі спрэчкі дасягнулі апагею. Таксама засталася нявыказанай пазіцыя Польшчы.

Вельмі рэзка і катэгарычна ў падтрымку прапановы ЗША выступілі прадстаўнікі Швейцарыі, Канады, Ірландыі (ад імя Еўрасаюзу) і Галандыі.

У выніку дыскусіі стала зразумелым, што большасьць краінаў-сяброў Камісіі падтрымлівае прапанову ЗША аб прыняцьці самых жорсткіх мераў у адносінах да беларускага ўраду: за гэта выступаюць усе лацінаамерыканскія краіны (акрамя Кубы), усе краіны Еўрасаюзу, прадстаўленыя ў Камісіі (гэта 8 галасоў), некалькі афрыканскіх дзяржаваў, ЗША, Канада, Аўстралія, Венгрыя, Харватыя.

Адзначым, што і на іншых пасяджэньнях у межах падрыхтоўкі да сесіі Камісіі па правах чалавека ўзгадваецца беларускае пытаньне – шмат якія краіны робяць акцэнт на сітуацыі ў Беларусі ў сваіх выступах.

Такім чынам, разгляд становішча з правамі чалавека ў Беларусі, які пачнецца неўзабаве ў Камісіі па правах чалавека ААН, можа мець самыя несуцяшальныя наступствы для беларускага ўраду. Вельмі верагодна, што ААН выступіць з асуджэньнем парушэньяў правоў чалавека ў Беларусі.

**Юры ЧАВУСАЎ,**
**Праваабарончы цэнтр "Вясна".**

***P.S.*** 15 красавіка ў Жэневе камісія ААН па правах чалавека ухваліла Рэзалюцыю, якая асуджае парушэньні правоў чалавека ў Беларусі. Камісія стварыла пасаду Сьпецыяльнага дакладчыка па Беларусі, які павінен вывучыць сітуацыю з правамі чалавека ў краіне і даць справаздачу на наступнай сесіі. Старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" **Алесь Бяляцкі** так пракаментаваў гэтую падзею карэспандэнту Радыё Свабода:

"Рэзалюцыя па Беларусі прымаецца ўжо другі раз. Нагадваю, што летась камісіяй па правах чалавека ААН таксама была прынятая рэзалюцыя па Беларусі, што было дастаткова вялікай нечаканасьцю.

Як лічаць краіны, якія вынесьлі і прынялі гэтую рэзалюцыі, сітуацыя з правамі чалавека за апошні год у Беларусі не палепшылася. Ініцыятарамі гэтай рэзалюцыі зьяўляюцца краіны Еўрасаюзу і ЗША.

У ёй ідзе гаворка пра дастаткова агульныя і вядомыя рэчы, прынамсі ў нас у Беларусі: пра той ціск, які аказваюць улады на разьвіцьцё няўрадавых арганізацыяў, пра палітычнае жыцьцё дэмакратычных партыяў Беларусі, пра нежаданьне расьследаваць справы зьніклых. Згадваецца таксама і тое, якія праблемы мае цяпер Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт і закрыцьцё Гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа.

Найбольш цікавым зьяўляецца ў гэтай рэзалюцыі (і гэта моцна адрозьнівае яе ад папярэдняй, леташняй рэзалюцыі) тое, што ў шостым пункце рэзалюцыі прапануецца ўвесьці пасаду Сьпецыяльнага дакладчыка па правах чалавека ў Беларусі ад камісіі па правах чалавека ААН. Хачу заўважыць, што такая пасада звычайна прызначаецца толькі ў краінах з татальным парушэньнем правоў чалавека. Я думаю, гэта ёсьць наступны крок, які паказвае ўсё большую занепакоенасьць сусветнай супольнасьці што да сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі".

За рэзалюцыю прагаласавалі 23 краіны, супраць – 13, а 17 краінаў устрымаліся.

## У Беларусь дарогі няма

### *Улады нашай краіны ня хочуць прымаць прадстаўніка Генеральнага сакратара ААН па праваабаронцах Хіну Джылані*

14 красавіка старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі правёў працоўную сустрэчу са Сьпецыяльным прадстаўніком Генеральнага сакратара ААН па праваабаронцах Хінай Джылані. Размова ішла пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі, якая значна пагоршылася за апошні год. Алесь Бяляцкі прывёў новыя факты закрыцьця няўрадавых арганізацыяў у Беларусі, узбуджэньня крымінальных справаў за крытыку беларускіх уладаў з боку апазіцыйных палітыкаў і праваабаронцаў, перасьлед моладзі і прафсаюзаў.

Хіна Джылані выказала шчырую зацікаўленасьць у новай інфармацыі з Беларусі і паведаміла, што яе офіс вельмі ўважліва адсочвае сітуацыю з правамі чалавека ў нашай краіне.

Спадарыня Джылані праінфармавала, што яна ўжо некалькі разоў на працягу апошняга часу зьвярталася да беларускіх уладаў з просьбай узгадніць яе паездку ў Беларусь, але не атрымала станоўчага адказу. Тым ня менш, яна будзе і надалей рабіць актыўныя захады, каб паўплываць на сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі.

У гэты ж дзень, 14 красавіка, адбылася сустрэча з Оліў Мур, прадстаўніцай Ірландзкай місіі ў камісіі па правах чалавека, адказнай за прадстаўленьне Рэзалюцыі аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Варта нагадаць, што Ірландыя зараз старшынствуе ў Еўрасаюзе, і праект Рэзалюцыі падтрымліваецца ўсімі сябрамі ЕС. Была абмеркаваная сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі і адзначанае яе значнае пагаршэньне за апошні год.

## Застаецца толькі скардзіцца ў ААН

Упраўленьне юстыцыі Гомельскага аблвыканкаму адмовілася зарэгістраваць новае абласное грамадзкае аб'яднаньне "Грамадзянская альтэрнатыва". Ягонымі заснавальнікамі выступілі 200 грамадзянаў рэгіёну. Большасьць з іх — сябры ліквідаванага ўладамі аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы".

Абласное ўпраўленьне юстыцыі не задаволіла тое, што новае аб'яднаньне мае намер уступаць у міжнародныя арганізацыі і займацца выдавецкай дзейнасьцю. Яшчэ адна прэтэнзія датычыць семантыкі словаў "гуманітарны" і "гуманістычны". Істотным парушэньнем упраўленьне палічыла не пазначаны нумар пакою ў гарантыйным лісьце на разьмяшчэньне юрыдычнага адрасу...

Упраўленьне не прымала афіцыйнага рашэньня адносна рэгістрацыі "Грамадзянскай альтэрнатывы" тры з паловай месяцы, хаця статутныя дакументы паводле беларускага заканадаўства павінны разглядацца напрацягу 30 дзён. Старшыня навага аб'яднаньня Уладзімір Кацора вымушаны быў ня толькі дасылаць запыт ва ўпраўленьне юстыцыі, але і скардзіцца ў пракуратуру Рэспублікі Беларусь і Міністэрства юстыцыі.

Стала вядома таксама, што Камітэт ААН па пытаньнях правоў чалавека прыняў да разгляду скаргу ліквідаванага ўладамі грамадзкага аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы". У лісьце з Вены кіраўніку "Ініцыятываў" Віктару Карніенку паведамілі, што ў адпаведнасьці з правілами копія скаргі накіраваная для ацэнкі беларускаму ўраду. Урад павінен даць адказ Камітэту ААН пра ліквідаваньне аб'яднаньня на працягу шасьці месяцаў.

# У зьмякчэньні меры пакараньня адмаўляюць

## Прафесар Юры Бандажэўскі адбыў палову тэрміну пакараньня, аднак напярэдадні чарговай гадавіны Чарнобыльскай катастрофы ўлады гэтага "не заўважаюць"...

***Асуджаны, які адбыў палову тэрміну зьняволеньня, можа разьлічваць на зьмякчэньне меры пакараньня. Звычайна пасьля разгляду справы судом яго адпускаюць на пасяленьне, альбо на так званую «хімію» (абмежаваньне волі). Аднак Юрыю Бандажэўскаму, сусьветна вядомаму навукоўцу-радыёлагу, прафесару, у гэтай палёгцы адмаўляюць. У 2001 годзе рэктар Гомельскага медыцынскага інстытуту Юры Бандажэўскі і яго калега прарэктар Уладзімір Раўкоў былі асуджаныя быццам бы за атрыманьне хабару ад бацькоў абітурыентаў на 8 гадоў пазбаўленьня волі (пазьней адзін год быў зьняты па амністыі). Гэтую гучную справу часам называюць "справай Гомельскага медінстытуту" альбо "справай урачоў". Навуковыя досьледы прафесара Юрыя Бандажэўскага і яго калегаў, якія вывучалі ўзьдзеяньне радыяцыі на арганізм чалавека, разыходзіліся з дзяржаўнай палітыкай – у сярэдзіне 90-х гадоў урад Беларусі прыняў рашэньне пра частковы зварот сельскагаспадарчых земляў з зоны радыектыўнага забруджаньня. Досьледы прафесара Юрыя Бандажэўскага даказвалі, што ўзьдзеяньне малых дозаў радыяцыі згубна ўплывае на ўсе жыцьцёва важныя органы. Пра сітуацыю, што склалася цяпер, калі прафесар Юры Бандажэўскі адбыў палову тэрміну пакараньня, распавядае яго жонка Галіна Сяргееўна БАНДАЖЭЎСКАЯ:***



Юры БАНДАЖЭЎСКІ.

– На пасяленьне майго мужа павінны былі адпусьціць 6 студзеня, а цяпер ужо красавік. Усе мерапрыемствы зьвязаныя са зьменай меры пакараньня па законе трэба правесьці на працягу аднаго месяца. Да сёньня ніякіх зрухаў няма. У студзені была палова тэрміну. Зьняволеных, якія адбывалі пакараньне разам з мужам, пачалі паступова пераводзіць на пасяленьне. Справа дайшла да ўсіх, акрамя яго. Год таму калонію наведалі прадстаўнікі французскай і нямецкай амбасадаў. Тады начальнік Камітэту па выкананьні пакараньняў Уладзімір Коўчур паведаміў амбасадарам, што праз год Юрыю Бандажэўскаму мера пакараньня будзе зьмененая на больш мяккую, бо блізіцца час паловы тэрміну яго зьняволеньня. Амбасадар АБСЕ, сп. Хайкен таксама наведаў майго мужа паўгады таму, і Ул. Коўчур яму заявіў тое ж самае.



Галіна БАНДАЖЭЎСКАЯ.

Я пайшла ў Камітэт па выкананьні пакараньняў, каб даведацца пра сітуацыю. Мне адказалі, што ў мужа вельмі слабое здароўе, язва страўніка, што зусім нядаўна ён перанёс аперацыю, таму ён ня зможа выконваць цяжкую фізічную працу, якую робяць у зонах пасяленьня. Але па законах Рэспублікі Беларусь не працуюць толькі інваліды I і II групы...

Праз некалькі дзён пасьля майго візіту ў Камітэт да мужа прыйшлі прадстаўнікі калоніі і сказалі, што яму трэба прайсьці абсьледаваньне ў рэспубліканскай бальніцы Міністэрства ўнутраных справаў, каб высьветліць стан здароўя. У бальніцы ён знаходзіўся з 2 па 9 сакавіка. Ніякай іваліднасьці яму не далі, а праблемы са здароўем ў 50 гадоў ёсьць у кожнаґа.

***– Ці былі нейкія дысцыплінарныя заўвагі вашаму мужу?***

– Не, не было ніякіх заўвагаў. Маці мужа пісала начальніку калоніі. Ёй адказалі, што ён паводзіць сябе добра, выконвае ўсе патрабаваньні і ніякіх заўвагаў да яго няма.

І тут раптам мы даведваемся, што яго ня могуць адпусьціць на пасяленьне, бо "стан здароўя не дазваляе". Знаходзіцца ў ізаляцыі здароўе дазваляе, а працаваць на пасяленьні – не. Калі муж ішоў у турму, у яго не было інваліднасьці, і паводле гэтых апошніх дасьледаваньняў ён яе і не набыў. Ён можа выконваць і фізічную працу. Мы не настойваем на тым, каб яго паслалі працаваць менавіта ўрачом. Проста разам з усімі, як звычайнага зьняволеннага, але гэтага рабіць ня хочуць і, відаць, не зьбіраюцца.

***– Вы лічыце, што для адмовы няма ніякіх падставаў?***

– Так, я лічу, што падставаў абсалютна ніякіх няма. Яны цягнуць час, і на гэта, відаць, ёсьць свае матывы. Хутчэй за ўсё, дзеля таго, каб не адпускаць з турмы чалавека ўвогуле. З маім мужам робіцца нешта неверагоднае. Магчыма, хочуць перачакаць чарговую чарнобыльскую гадавіну, каб ён быў менш дасягальны для журналістаў і наведвальнікаў. Ці проста цягнуць час, а адпускаць яго зусім не зьбіраюцца. Гэта мая асабістая думка.

У студзені 2005 году ён ужо будзе мець права на датэрміновае вызваленьне. Але ў мяне няма ўпэўненасьці ў законах. Калі падыдзе тэрмін датэрміновага вызваленьня, могуць знайсьці шэраг прычынаў, каб яго ня вызваляць. Напрыклад, прычапіцца да таго, што ён ня выплаціў матэрыяльную страту, якая была «нанесеная дзяржаве». Значыць, ён ня будзе мець права выйсьці, бо павінен адкупіць усё цалкам, адсядзець увесь тэрмін. Я яшчэ раз пераконваюся ў бяспраўі, якое існуе ў нашай дзяржаве. Невялікая палёгка, на якую можа разьлічваць зьняволены – зьмякчэньне меры пакараньня за добрую дысцыпліну, і тая становіцца недасяжнай. Я ўжо не кажу пра перагляд справы.

Мы падалі скаргу ў Жэневу, і я ведаю, што недзе ў сярэдзіне красавіка там будзе паседжаньне камісіі па правах чалавека. На гэта ёсьць нейкая надзея. Тут праўды і справядлівасьці я ня бачу. Я нават не патрабую перагляду справы ці апраўданьня, проста адпусьціце, так як гэта належыць па законе. Але і гэтае права не даюць выкарыстаць.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ.**

# "Падставаў дзеля ліквідацыі нашага аб'яднаньня проста не было..."

## Праваабарончы цэнтр "Вясна" падрыхтаваў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН

Прайшло ўжо больш як паўгоду з таго моманту, калі судзьдзя Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь Валянціна Кулік вынесла рашэньне аб ліквідацыі Грамадзкага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна". Рашэньне, вынесенае 28 кастрычніка 2003 году, уступіла ў дзеяньне з моманту яго абвяшчэньня ў судзе. Згодна з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь рашэньне Вярхоўнага суда зьяўляецца канчатковым і абскарджаньню ў парадку касацыі не падлягае. Таму абскардзіць гэтае судовае рашэньне прадстаўнікі "Вясны" маглі толькі ў парадку нагляду, падаўшы скаргу на імя старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь. Што і было зроблена. Аднак сваім вызначэньнем ад 24.12.2003 г. намесьнік старшыні Вярхоўнага Суда В.М. Вышкевіч у задавальненьні скаргі адмовіў, рашэньне суда было пакінутае ў сіле. Мы прадбачылі такі адказ, бо ў аўтарытарнай краіне няма незалежнай судовай сістэмы. Адмена рашэньня аб ліквідацыі "Вясны" стала б цудам. Цуду не адбылося.

Мы, прадстаўнікі Грамадзкага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна", лічылі і лічым вынесенае судовае рашэньне па ліквідацыі нашай арганізацыі незаконным, палітычна матываваным, зьвязаным з актыўнай дзейнасьцю аб'яднаньня. Падчас разгляду нам удалося даказаць неабгрунтаванасьць, незаконнасьць, а часам проста бязглуздасьць абвінавачваньняў Міністэрства юстыцыі.

Мы лічым, што суд пры вынясеньні рашэньня не ўлічыў некалькі фактаў, маючых значэньне па справе, а таксама няправільна ўжыў нормы матэрыяльнага права. Ліквідацыя "Вясны" адбылася па пункце 2 падпункце 2 арт. 57 Грамадзянскага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Згодна з гэтым артыкулам юрыдычная асоба можа быць ліквідаваная па рашэньні суда ў выпадку ажыцьцяўленьня дзейнасьці без адпаведнага дазволу (ліцэнзіі) альбо дзейнасьці, забароненай заканадаўствам, альбо з іншымі неаднаразовымі ці грубымі парушэньнямі заканадаўства. Пры гэтым варта адзначыць, што грамадзянскі кодэкс ня ўтрымлівае крытэраў "грубасьці" парушэньняў, іх апісаньня, як і ня ўтрымлівае тэрміну, на працягу якога такое парушэньне павінна быць учыненае. У выпадку з "Вясной" суд палічыў, што ў 2001 годзе



XXXV Congreso Mundial de la Federación Internacional de Derechos Humanos "Democratizar la Globalización" - Marzo 2004 - Quito Ecuador

13 красавіка Міжнародная Федэрацыя правоў чалавека (FIDH) прапанавала Камісіі ААН па правах чалавека запатрабаваць ад беларускага ўраду зноў надаць легальны статус тым няўрадавым арганізацыям, якія былі забароненыя падчас мінулагодняй "зачысткі".

У афіцыйнай заяве, накіраванай FIDH у Камісію, выказваецца занепакоенасьць няспынным перасьледам няўрадавых арганізацыяў у Беларусі. Сярод іншага ў заяве асуджаюцца дэкрэты прэзідэнта, што істотна абмяжоўваюць правы няўрадавых арганізацыяў, і кампанія па юрыдычнай ліквідацыі няўрадавых арганізацыяў. FIDH даводзіць да ведама Камісіі сьпіс арганізацыяў, ліквідаваных у 2003 годзе, і называе дзеяньні, якія сталі падставамі дзеля ліквідацыі (праваабарончая дзейнасьць, аказаньне юрыдычнай дапамогі грамадзянам, назіраньне за выбарамі), — паведамляе прэс-служба Асамблеі НДА.

Дзеля ўплыву на становішча ў Беларусі, апроч іншага, FIDH прапануе Камісіі запатрабаваць ад беларускага ўраду вярнуць легальны статус юрыдычна ліквідаваным у 2003 годзе арганізацыям і надалей прызнаваць ролю няўрадавых арганізацыяў і праваабаронцаў у грамадзкім разьвіцьці.

Адзначым, што прапановы FIDH як арганізацыі, якая валодае сьпецыяльным кансультацыйным статусам пры Камісіі, маюць істотнае значэньне для сяброў камісіі. Таму цалкам верагодна, што ў выніковай рэзалюцыі Камісіі, будзе зьмешчаная прапанова аб аднаўленьні законнага статусу ліквідаваных НДА.

***На здымку:*** крайні справа Генеральны сакратар FIDH Філіп Кафальян, другі справа юрыст ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч на 35 Кангрэсе FIDH у Эквадоры ў сакавіку 2004 году, на якім Праваабарончы цэнтр "Вясна" быў прыняты ў якасьці асацыяванага сябра FIDH.

аб'яднаньне ўчыніла грубае парушэньне заканадаўства падчас вылучэньня назіральнікаў на ўчастку для галасаваньня пры правядзеньні прэзідэнцкіх выбараў. Суд палічыў, што факт такіх парушэньняў пацьвярджаецца Пастановай Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па правядзеньні выбараў ад 8 верасьня 2001 году. Нагадаем, што згодна з гэтай Пастановай былі прызнаныя несапраўднымі пратаколы ГА ПЦ "Вясна" аб вылучэньні назіральнікаў на ўчасткі для галасаваньня. Такім чынам, за адзін дзень да выбараў, пасьля пяці дзён датэрміновага галасаваньня каля 2000 назіральнікаў "Вясны" былі пазбаўленыя магчымасьці ажыцьцяўляць назіраньне за выбарамі. Ня будзем даваць юрыдычную ацэнку гэтай пастановы, хаця лічым, што Цэнтральная камісія ня мела права прызнаваць пратаколы несапраўднымі, бо гэта зьяўляецца прэрагатывай судовых органаў. Таксама ня будзем нагадваць, у якіх умовах адкрытага перасьледу і пастаяннага ціску ўладаў працавалі назіральнікі ад грамадзкіх аб'яднаньняў, што ўваходзілі ў склад Грамадзкай ініцыятывы "Незалежнае назіраньне", якому ціску падвяргалася нашая арганізацыя. Закранем толькі пытаньне законнасьці ўжываньня арт. 57 ГК Рэспублікі Беларусь у выпадку ліквідацыі грамадзкіх аб'яднаньняў. Тым больш што паводле гэтага артыкулу былі ліквідаваныя ня толькі "Вясна", але і некалькі дзясяткаў іншых незалежных грамадзкіх аб'яднаньняў. Па нашым меркаваньні, якое падтрымліваюць і іншыя незалежныя юрысты, дзейнасьць грамадзкіх аб'яднаньняў рэгулюецца сьпецыяльным заканадаўствам, а не арт. 57 ГК. Спасылку на гэтую акалічнасьць робіць і арт. 117 ГК. Паводле гэтага артыкулу дзейнасьць рэлігійных і грамадзкіх арганізацыяў рэгулюецца сьпецыяльным заканадаўствам. Да такога заканадаўства адносіцца Закон Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях". Менавіта гэты закон утрымлівае падставы для ліквідацыі грамадзкіх аб'яднаньняў, без вынясеньня папярэджаньня, за аднаразовыя парушэньні дзеючага заканадаўства. Да такіх грубых парушэньняў адносяцца:

— учынененьне аб'яднаньнем дзеяньняў, скіраваных на зьвяржэньне альбо гвалтоўнае зьмяненьне канстытуцыйнага ладу, парушэньне цэласнасьці і бясьпекі дзяржавы, прапаганду вайны, гвалту, распальваньне нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасьці, а таксама ажыцьцяўленьне дзейнасьці, якая можа адмоўна паўплываць на фізічнае і псіхічнае здароўе грамадзянаў;

— допушчэньне з боку заснавальнікаў аб'яднаньня пры яго рэгістрацыі парушэньняў актаў заканадаўства (у чым таксама няўдала спрабавалі абвінаваціць "Вясну" прадстаўнікі Міністэрства юстыцыі);

— за аднаразовае парушэньне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.

Яшчэ адной падставай для ліквідацыі аб'яднаньняў у судовым парадку без папярэджаньня зьяўляецца аднаразовае парушэньне ч.1-4 п.4 Дэкрэту прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб атрыманьні і выкарыстаньні дабрачыннай дапамогі" ад 28.12.2003 г. № 24 (у адпаведнасьці з ч.3 п.5.1. з дадзеным Дэкрэтам).

Ніякіх "грубых" парушэньняў, выкладзеных вышэй, "Вясна" на працягу сваёй дзейнасьці не ўчыняла.

За іншыя парушэньні, згодна з Законам "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях", рэгіструючым органам у адрас кіруючага органу аб'яднаньня можа быць вынесенае пісьмовае папярэджаньне. Толькі пры наяўнасьці паўторнасьці парушэньняў на працягу году, за якія ўжо выносілася пісьмовае папярэджаньне, можа быць узьнятае пытаньне па ліквідацыі аб'яднаньня ў судовым парадку. Іншымі словамі кажучы, пры наяўнасьці двух пісьмовых папярэджаньняў за адно і тое ж парушэньне Міністэрства юстыцыі можа ініцыяваць працэс ліквідацыі ў судзе. З 2001 году і да моманту ліквідацыі ў адрас "Вясны" не было вынесенае ніводнае пісьмовае папярэджаньне! І гэта нягледзячы на штогадовыя праверкі Міністэрства юстыцыі.

Такім чынам, падставаў дзеля ліквідацыі нашага аб'яднаньня проста не было! Мы не дапускалі парушэньняў Закону "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях".

Нават калі пагадзіцца з пазіцыяй суда аб правільнасьці ўжываньня арт. 57 ГК сітуацыя ўсё адно выглядае, мякка кажучы, недарэчна. Бо за тыя "грубыя" парушэньні выбарчага заканадаўства, за якія суд ліквідаваў аб'яднаньне ўжо было вынесенае пакараньне. 28 жніўня 2001 году "Вясна" атрымала папярэджаньне ў сувязі "з парушэньнямі парадку афармленьня пратаколаў Рады аб накіраваньні назіральнікаў". Але на працягу году (з 28.08.2001 па 28.08.2002 г.г.) аб'яднаньне паўторнага парушэньня не зьдзяйсьняла. Адпаведна, у кастрычніку 2003 году гэтае папярэджаньне ўжо ня мела юрыдычнай сілы. Атрымалася, што за адныя і тыя ж дзеяньні "Вясну" пакаралі двойчы – вынесьлі папярэджаньне, а праз два гады за гэтыя ж "грубыя парушэньні" яшчэ і ліквідавалі.

Вось такія "сюрпрызы" прыносіць часам беларуская юрыспрудэнцыя.

Менавіта таму зараз, калі прадстаўнікі "Вясны" скарысталі ўсе магчымасьці абароны на нацыянальным узроўні (якіх было зусім няшмат – адна наглядная скарга на імя старшыні Вярхоўнага суда), і была падрыхтаваная скарга ў Камітэт па правах чалавека ААН. Мы спадзяемся на справядлівы разгляд нашай скаргі ў сапраўды незалежных міжнародных структурах. Скарга пададзеная ад імя Старшыні Рады аб'яднаньня А. Бяляцкага і яшчэ 9 сяброў аб'яднаньня. Усе яны ахвяры парушэньняў правоў чалавека. У скарзе ўказаныя асноўныя парушэньні нацыянальнага і міжнароднага заканадаўства, якія былі допушчаныя падчас разгляду справы ў Вярхоўным Судзе. У тым ліку ч. 1 арт. 14, ч. 1 і 2 арт. 22, арт. 26 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, які быў ратыфікаваны і нашай краінай. На думку вясноўцаў – былі парушаныя права на свабоду асацыяцыі і права на справядлівае судовае разьбіральніцтва незалежным судом. Мы разумеем, што ў выпадку станоўчага для нас рашэньня ўлады Беларусі не адновяць рэгістрацыю "Вясны" і праігнаруюць рашэньне Камітэту па правах чалавека ААН. Усё адно – для нас гэта будзе маральная перамога, пацьверджаньне нашай праваты на самым высокім міжнародным узроўні.

# Застаецца толькі спадзяваньне...

***Родныя зьніклых беларускіх палітыкаў і журналіста просяць ААН выкарыстаць усе магчымыя сродкі ціску на беларускія ўлады. Адпаведны ліст яны накіравалі ў Камісію па правах чалавека, дзе праходзяць слуханьні па Беларусі.***

**Маці зьніклых беларускіх палітыкаў Валянціна Ганчар, Ульляна Захаранка, жонка Віктара Ганчара Зінаіда і маці зьніклага журналіста Вольга Завадзкая перадалі ліст у Камісію па правах чалавека ААН праз запрошанага на слуханьні старшыню Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага. У сваім лісьце яны пішуць:**

**"Мы, маці і жонкі зьніклых беларускіх палітыкаў і журналіста Зінаіда Ганчар, Валянціна Ганчар, Вольга Завадзкая, Ульляна Захаранка, цалкам падтрымліваем Рэзалюцыю ААН аб парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі ад 17 красавіка 2003 году. Мы ўдзячныя за вашую заклапочанасьць лёсамі нашых родных.**

**Мы інфармуем вас пра тое, што за мінулы з часу прыняцьця Рэзалюцыі год не адбылося ніякіх зьменаў са справамі аб гвалтоўных выкраданьнях апанентаў рэжыму. Вашыя заклікі аб звальненьні ці часовым адхіленьні ад займаемых пасадаў прадстаўнікоў праваахоўных органаў, якія, магчыма, датычныя да зьнікненьняў (ці адвольных пакараньняў сьмерцю) да правядзеньня належнага расьсьледаваньня, не прынятыя пад увагу. Таксама не прынятыя ўсе неабходныя захады дзеля поўнага і аб'ектыўнага расьсьледаваньня гвалтоўных выкраданьняў нашых родных і пакараньня вінаватых.**

**Мы просім вас выкарыстаць усе сродкі ціску на ўлады Беларусі, якія ёсьць у вашай кампетэнцыі, з мэтай выкананьня імі абавязацельстваў перад грамадзянамі сваёй краіны, а таксама міжнароднымі абавязацельствамі, узятымі на сябе Рэспублікай Беларусь.**

**Мы ўдзячныя вам за разуменьне той сітуацыі, у якой аказаліся нашыя сем'і, і верым, што дзеяньні, якія вы прадпрымаеце, дапамогуць выявіць праўду пра тое, што здарылася з нашымі роднымі і блізкімі. Бо нягледзячы на тое, што прайшло ўжо шмат часу з моманту выкраданьня, мы працягваем чакаць і спадзявацца".**

**Родныя зьніклых спадзяюцца, што ў Рэзалюцыі, якая будзе прынятая ў Жэневе, будзе адлюстраванае і становішча з іх правамі і правамі іх родных.**

# Родныя зьніклых падалі скаргу на старшыню КДБ

2 красавіка ў суд Цэнтральнага раёну Менску накіраваная скарга на старшыню КДБ Беларусі Леаніда Ерына, — перадае Радыё Свабода.

Скаргу падпісалі сваякі зьніклых апазіцыянераў Сьвятлана і Вольга Завадзкія, Зінаіда Ганчар і Ірына Красоўская. Ад імя Вольгі Захаранкі скаргу падпісаў яе прадстаўнік праваабаронца Алег Волчак. Аўтары скаргі просяць суд прыцягнуць Леаніда Ерына да адказнасьці паводле артыкулу пра ўкрывальніцтва злачыннай дзейнасьці. Яны лічаць, што Леанід Ерын сьвядома не выконвае сваіх абавязкаў у раскрыцьці злачынстваў супраць Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага.

Нагадаем, яшчэ напрыканцы студзеня сваякі зьніклых апазіцыянераў зьвярнуліся ў КДБ з просьбай распачаць расьследаваньне справаў пра зьнікненьні Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадзкага, якія раней вяла пракуратура. Сваякі палічылі, што ў сьледчых пракуратуры няма шанцаў на высьвятленьне праўды ў тым ліку таму, што адным з асноўных падазраваемых у справах яны лічаць дзейнага генеральнага пракурора Віктара Шэймана. Аднак з КДБ сваякам зьніклых нават не адказалі.

Прадстаўнік сем'яў Гары Паганяйла сьцьвярджае, што заява сваякоў зьніклых была пададзеная непасрэдна ў прыёмную КДБ і адпаведным чынам афармленая. Адказ на яе мусілі даць яшчэ месяц таму. Гары Паганяйла мяркуе, што справы пра зьнікненьні ў КДБ гэтак і не заводзілі. Вядома, што сваякі зьніклых апазіцыянераў плануюць падаць у міжнародны суд на найвышэйшых беларускіх чыноўнікаў, якіх падазраюць ва ўтойваньні злачынцаў. Дзеля гэтага нібыта падабраны суд адной з еўрапейскіх краінаў. Але пакуль ня страчаныя магчымасьці знайсьці праўду ў сваёй краіне. Цяпер сваякі Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадзкага будуць чакаць, як прарэагуе на іх абвінавачаньні на адрас старшыні КДБ Леаніда Ерына Цэнтральны суд Менску.

## Прыпынілі ў чарговы раз

**6 красавіка Пракуратура Рэспублікі Беларусь зноў прыпыніла расьследаваньне крымінальнай справы аб выкраданьні журналіста Дзьмітрыя Завадзкага, які бясьсьледна зьнік 7 ліпеня 2000 году. Пра гэта прэсцэнтру Хартыі-97 паведаміў прадстаўнік Сьвятланы Завадзкай юрыст Гары Паганяйла. У паведамленьні аб прыпыненьні крымінальнай справы, якое падпісана намесьнікам начальніка аддзелу па расьследаваньні справаў аб арганізаванай злачыннасьці і карупцыі Пракуратуры РБ Іванам Бранчэлем, гаворыцца, што крымінальная справа прыпыненая 31 сакавіка "ў сувязі з нявыяўленьнем бяз вестак зьніклай асобы".**

**Расьследаваньне справы аб выкраданьні журналіста прыпыненае ня першы раз. Апошні раз яна была ўзноўленая 10 сьнежня 2003 году. Зараз родныя Дзьмітрыя Завадзкага не разумеюць, навошта ўлады ўзнаўлялі расьследаваньне.**

# Зьніклага Віктара Ганчара выклікалі ў суд?..

Суд Савецкага раёну г. Менску выклікаў Віктара Ганчара позвай на слуханьні ў якасьці адказчыка ў сувязі з нявыплатай камунальных плацяжоў. Такія ж позвы атрымалі ягоныя жонка і сын. Зьніклы палітык і ягоныя блізкія павінны зьявіцца менавіта ў той суд, які ў сьнежні 2002 году прызнаў Віктара Ганчара бяз вестак адсутным.

Справа аб нявыплаце камунальных плацяжоў мае пачатак з 7 верасьня мінулага году, калі ў дзень нараджэньня Віктара Ганчара на тэхнічным паверсе дому, дзе жыве сям'я, адбыўся пажар, у выніку якога была цалкам папсаваная праводка, шпалеры, падлога, не зачыняліся нават уваходныя дзьверы. Каб кампенсаваць нанесеную шкоду, раённая адміністрацыя прыняла рашэньне дазволіць УП ЖРЭО Савецкага раёну г. Менску правесьці рамонт кватэры за кошт сродкаў бягучага рамонту і зацьвердзіла рахунак на 1 млн.320 тыс. рублёў. Аднак час ішоў, грошы не выплочваліся, а паколькі Зінаіда Ганчар была вымушаная самастойна зрабіць рамонт, яна вусна дамовілася са ЖРЭО, што вызначаныя грошы ёй кампенсуюць за кошт нявыплаты камунальных плацяжоў. Таму Зінаіда Ганчар і не плаціла на працягу апошніх месяцаў, але калі плацяжоў накапілася на суму 414 тыс. рублёў, яе разам з мужам і сынам выклікалі ў суд, які павінен пачацца 19 красавіка (хаця гэта выходны дзень).

Зінаіда Ганчар зьбіраецца пайсьці ў суд і, хутчэй за ўсё, яна разам са сваім адвакатам Паўлам Сапелкам пададуць сустрэчны зыск.

# КДБ цікавіцца моладзьдзю

***6 красавіка*** супрацоўнікі КДБ спрабавалі завербаваць старшыню Мастоўскай раённай арганізацыі Маладога Фронту 25-гадовага Зьміцера Кухлея.

Зьміцер быў затрыманы на чыгуначным вакзале ў Лідзе. Міліцыянты абшукалі рэчы і забралі частку накладу незарэгістраванага праваабарончага выданьня. Гэта адбылося 21 сакавіка. А неўзабаве яго запрасілі на гутарку два супрацоўнікі КДБ. Яна адбылася ў будынку раённай газеты. У хлопца пацікавіліся палітычнай арыентацыяй, сталі распытваць пра Малады Фронт. Па словах Зьміцера, дзесьці ў сярэдзіне размовы яны прапанавалі яму супрацоўнічаць з імі. Перад гэтым адзін з іх дастаў кніжачку з законам аб дзейнасьці Камітэту дзяржбясьпекі і зачытаў вытрымкі: што гэта ўсё законна, што ён можа з імі супрацоўнічаць — па асабістым жаданьні. А таксама — што за гэта прадугледжаныя стымулы, грашовыя ды іншыя. Маладафронтавец адказаў, што з КДБ супрацоўнічаць ён ня будзе.

***14 красавіка*** ў 11:30 перад пачаткам заняткаў на аграрна-тэхнічным факультэце БДАТУ (аграрна-тэхнічны універсітэт), да Сержука Семянюка падышоў намесьнік дэкана факультэта, які паведаміў, што хоча пагутарыць з ім наконт пропускаў заняткаў і магчымых наступстваў з гэтага. Але калі яны зайшлі ў дэканат, намесьнік дэкана паказаў Сержуку на двух асобаў у цывільным, якія жадаюць паразмаўляць з ім. Асобы не прадставіліся, а толькі паведамілі, што зьяўляюцца супрацоўнікамі КДБ.

Незнаёмыя адразу ж пачалі задаваць пытаньні, датычныя дзейнасьці ЗБС у апошнія месяцы. Найбольш іх цікавіла праваабарончая кампанія ЗБС "Адкрыты студэнцкі форум. Думкі ўслых", у межах якой 22 красавіка будзецца бясплатны рок-канцэрт для студэнтаў, а ў траўні – міжнародная канферэнцыя па правах студэнтаў. Запытваліся аб кіраўніцтве арганізацыі і замежных партнёрах, прасілі назваць імёны і краіны, з якімі працуе ЗБС. Сяржук адмовіўся адказваць на пытаньні незнаёмых людзей... Ён лічыць, што гэта была няўдалая спроба сьпецслужбаў паўплываць на ягоную грамадзкую актыўнасьць і дзейнасьць ЗБС у цэлым.




**5 красавіка 2004 г. Прэс-канферэнцыя Маладога Фронту па с[illegible]ах КДБ вербаваць моладзь.**

# Хроніка

***5 красавіка*** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджаньне рэдакцыі недзяржаўнай «Местной газеты». Выданьне абвінавачваюць у парушэньні артыкулаў 11 і 26 Закону аб друку, а таксама ў невыкананьні шэрагу патрабаваньняў, датычных афармленьня газеты.

Асноўная прэтэнзія да рэдакцыі заключаецца ў тым, што яна не паведаміла пісьмова Міністэрству інфармацыі пра зьмяненьне перыядычнасьці выпуску газеты: замест 2 разоў яна пачала выходзіць тройчы на тыдзень. Паводле папярэджаньня, выданьне таксама пашырыла тэрыторыю распаўсюду «на Ваўкавыск, Масты, Сьвіслач, Бераставіцу, Зэльву і Смаргонь», не паінфармаваўшы пра гэта рэгіструючы орган.

7 сакавіка заснавальнік і галоўны рэдактар «Местной газеты» Андрэй Шантаровіч накіраваў міністру інфармацыі Уладзіміру Русакевічу афіцыйны запыт з просьбай патлумачыць сутнасьць выстаўленых прэтэнзіяў. З ягоных словаў, у рэгістрацыйным пасьведчаньні выданьня гаворыцца, што «Местная газета» мае права распаўсюджвацца па ўсёй Беларусі. У лісьце таксама згадваецца дзяржаўнае раённае выданьне «Наш час», якое афармляе выходныя зьвесткі гэтаксама, як і «Местная газета», аднак не прыцягвае ўвагі ўладаў.

***6 красавіка*** ў Гародні быў затрыманы сын старшыні Агульнанацыянальнага страйкавага камітэту Рэспублікі Беларусь Валерыя Леванеўскага Уладзімір, які распаўсюджваў на рынку "Карона" ўлёткі і бюлетэнь "Прадпрымальнік". Да У.Леванеўскага падышлі людзі ў цывільным, якія прадставіліся "службай аховы рынку", але адмаўляліся паказваць дакументы. У. Леванеўскага даставілі ў Ленінскі РУУС Гародні, дзе на яго склалі пратакол. Праз дзьве гадзіны Леванеўскага адпусьцілі, канфіскаваўшы ўсе ўлёткі і бюлетэні.

***6 красавіка*** Менская транспартная пракуратура ўзбудзіла супраць Аксаны Новікавай крымінальную справу па арт. 367 ч.2 КК Рэспублікі Беларусь – паклёп на прэзідэнта. Справа ўзбуджаная за тое, што 5 красавіка ў 12 гадзінаў, знаходзячыся ў тунелі №2 станцыі Менск-Пасажырскі, Аксана Новікава "публічна дэманстравала ўлёткі, вырабленыя памнажальным спосабам, раздаючы іх мінакам. Названыя ўлёткі ўтрымліваюць паклёпніцкія, заведама ілжывыя зьвесткі, якія ганьбяць прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, спалучаныя з абвінавачаньнем у асабліва цяжкіх злачынствах". Справа ўзбуджаная транспартным пракурорам, саветнікам юстыцыі А.М. Лашыным.

***7 красавіка*** Аксана Новікава была выкліканая ў транспартную пракуратуру на папярэдні допыт – для высьвятленьня дэталяў справы. Сьледчы транспартнай пракуратуры Юры Надольскі ўдакладняў: "Хто раздаваў улёткі антыпрэзідэнцкага зьместу, колькі ўсяго было ўлётак, дзе яны былі зробленыя?" Гэта быў папярэдні допыт без заяўкі сьведкаў. Калі будзе наступны допыт, пакуль невядома, але Аксана Новікава застаецца падазраваемай па крымінальнай справе аб паклёпе ў адносінах прэзідэнта А.Лукашэнкі (арт.367.ч.2 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь).

Нагадаем, што ў лютым 2004 году Камітэт выкананьня пакараньняў амніставаў Аксану Новікаву, якую ў красавіку мінулага году за абразу прэзідэнта пакаралі двума гадамі пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай на два гады.



Аксана НОВІКАВА.

***7 красавіка*** ў Гародні пасьля сустрэчы грамадзкасьці з прадстаўнікамі Народнай кааліцыі "Пяцёрка+", якія прыехалі з Менску, міліцыянты затрымалі аўтамабіль з улёткамі, які належыць кіраўніку абласной арганізацыі АГП Уладзіміру Чырвоненку. Гэта адбылося прыблізна ў 20 гадзінаў вечару. Міліцыянты абшукалі машыну. У РАУС супрацоўнікі міліцыі пералічылі ўлёткі і склалі пратакол. Міліцыя яшчэ затрымала чатырох чалавек, якіх таксама даставілі ў Ленінскі РАУС.

***8 красавіка*** больш за дзесяць актывістаў Свабоднага прафсаюзу Беларускага правялі на прахадной аб'яднаньня «Полацкшклолакно» інфармацыйную акцыю ў падтрымку Віктара Стукава, апаратара 7 цэху прадпрыемства – ён атрымаў паведамленьне пра сваё звальненьне. Адпрацаваўшы дваццаць гадоў апаратарам у цэху са шкоднымі ўмовамі працы, спадар Стукаў апынуўся за заводзкай прахадной – да таго ж прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасьці.

***9 красавіка*** ў цэнтры Менску супрацоўнікі міліцыі арыштавалі трох актывістаў руху "Зубр". Раман Казакевіч і Канстанцін Л. былі затрыманыя на прасьпекце Машэрава падчас расклейкі плакатаў на тумбах для аб'яваў. Яшчэ адзін актывіст руху «Зубр», непаўнагадовы Алег Радзюк, быў затрыманы на станцыі метро «Пушкінская» таксама за расклейку ўлётак. Яго даставілі ў аддзяленьне міліцыі і склалі ў дачыненьні яго бацькоў пратакол па артыкуле 162 КаАП (Невыкананьне бацькоўскіх абавязкаў).

У Баранавічах актывіст «Зубра» Артур Гайдукевіч баў затрыманы ў цэнтры гораду за тое, што ў яго на вопратцы быў значок з лагатыпам руху. У аддзяленьні міліцыі на яго склалі пратакол па артыкуле 167-2 (выкарыстаньне незарэгістраванай сімволікі). Праз некалькі гадзінаў ён быў адпушчаны.

***14 красавіка*** ў судзе Цэнтральнага раёну г. Менску адбыўся суд па адміністратыўнай справе актывісткі моладзевага руху супраціву "Зубр" Дар'і Малдаванавай, якая была затрыманая 13 красавіка каля 17 гадзінаў за тое, што разам з іншымі актывістамі вывешвала ў раёне Нямігі ў Менску шасьціметровы плакат "Он должен уйти". Судзьдзя Наталя Вайцяховіч прызнала 18-гадовую Дар'ю Малдаванаву вінаватай у парушэньні арт. 167.1 КаАП РБ (парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня масавых мерапрыемстваў) і вынесла рашэньне аштрафаваць на 20 базавых велічыняў (380 тысячаў рублёў).

***13 красавіка*** суд Ленінскага раёну Менску пакараў Міхаіла Марыніча штрафам у дзесяць базавых велічыняў за публікацыю ў газеце "Народная воля". Спагнаньне (гэта прыблізна 90 даляраў ЗША) вынесьлі за тое, што ў артыкуле "Калапс?", які надрукаваны ў газеце "Народная воля", Міхаіл Марыніч называе сябе сябрам грамадзкай арганізацыі "За годнае жыцьцё". Гэтая арганізацыя пакуль не зарэгістраваная Міністэрствам юстыцыі, хаця адпаведныя дакументы туды пададзеныя. На пытаньне судзьдзі Дзьмітрыя Жданка, якім чынам так атрымалася, Міхаіл Марыніч спаслаўся на тэхнічную памылку: маўляў, пры перадрукоўцы тэксту выпадкова зьнікла слова "аргкамітэту". Пра гэта спадар Марыніч яшчэ раней паведаміў Міністэрству юстыцыі.

***12 красавіка*** ў Полацкім гарадзкім судзе была разгледжаная справа актывістаў руху "Зубр". Анастасія Васіленка, Яўген Афнагель і Мікіта Сасім былі затрыманыя 12 красавіка ў Полацку і абвінавачаныя ў расклейцы ўлётак. Пасьля затрыманьня яны былі даста́ўленыя ў Полацкі ГАУС, дзе на іх былі складзеныя пратаколы згодна з артыкулам 167-10 КаАП (дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі), а адтуль у суд. Судовае паседжаньне вяла судзьдзя Ірына Дародка. Судзьдзя не задаволіла хадайніцтва "зубраўцаў", каб іх правы падчас судовага паседжаньня прадстаўляў праваабаронца Зьміцер Салаўёў. Сваю адмову яна матывавала тым, што ў адміністратыўным працэсе могуць удзельнічаць толькі адвакаты. Спасылкі на Канстытуцыю і пастанову пленуму Вярхоўнага суда, дзе тлумачыцца магчымасьць прысутнасьці прадстаўнікоў, судзьдзя пакінула па-за ўвагай. У выніку судовага пасяджэньня Мікіта Сасім атрымаў штраф у памеры 10 базавых адзінак (190 000 рублёў). Яўген Афнагель і Анастасія Васіленка атрымалі папярэджаньне. Канфіскаваныя бел-чырвона-белыя сьцягі і друкаваныя матэрыялы былі прызнаныя рэчавымі доказамі і асуджаным ня вернутыя.

# «Нормаў літаратурнай рускай мовы» не парушылі...

9 красавіка суд Першамайскага раёну г. Менску адхіліў зыск Рады Беларускага Хельсінскага камітэту і яго старшыні Тацяны Процькі да Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі. Суд вырашыў, што журналісты БТ не зьневажалі гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі сяброў БХК, бо «нейтральна выкладалі сутнасьць праблемы». Адказьнікі пры абвяшчэньні судовага рашэньня не прысутнічалі, – паведамляе прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

Падставай дзеля зыску аб абароне гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі Т. Процькі і рэпутацыі БХК стаў сюжэт, паказаны па Першым нацыянальным тэлеканале 2 лістапада 2003 году ў праграме «В центре внимания». Дзейнасьць БХК, Тацяны Процькі і іншых праваабаронцаў падавалася ў ім у негатыўным сьвятле: у прыватнасьці, аўтары праграмы намякалі на нямэтавае выкарыстаньне арганізацыяй буйной сумы грошай. Адказьнікамі па справе выступалі НДТРК, вядучы тэлепраграмы «В центре внимания» Сяргей Хамянтоўскі і аўтар сюжэту Юры Пракопаў.

Судзьдзя Аніскевіч вырашыў, што распаўсюджаныя ў праграме зьвесткі ня могуць быць прызнаныя зьневажальнымі, паколькі яны ня ўтрымлівалі наўпроставых зьнявагаў у адрас зыскоўцаў, не парушалі «нормаў літаратурнай рускай мовы» і ўяўлялі сабою «нейтральнае выкладаньне пункту гледжаньня журналістаў».

Каментуючы вынікі суда, прадстаўнік зыскоўцаў у судзе Гары Паганяйла заявіў, што «суд у чарговы раз выканаў замову выканаўчай улады». Напрацягу 10 дзён зыскоўцы зьбіраюцца абскардзіць гэтае рашэньне ў Менскі гарадзкі суд. «Мы павінныя выкарыстаць усе законныя спосабы і метады абароны сваіх правоў. Астатняе – на сумленьні судоў», – заявіў Г. Паганяйла ў гутарцы з прэс-службай ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

Зараз у тым жа Першамайскім раённым судзе знаходзіцца яшчэ адзін зыск – аб парушэньні немаёмасных правоў і кампенсацыі маральных стратаў Тацяны Процькі і яе мужа Дзьмітрыя Козыра. Падставай дзеля зыску стаў яшчэ адзін выпуск праграмы «В центре внимания», прадэманстраваны па БТ 29 лютага, у якім вялася гаворка пра прыбыткі супрацоўнікаў арганізацыі і асабістую маёмасьць Т. Процькі.

# «Тэлегледачы ўводзяцца ў зман з дапамогай хлусьні»

З адкрытым лістом да аўтара і вядучага праграмы «Права человека – взгляд в мир» Першага нацыянальнага тэлеканалу Беларусі 5 красавіка зьвярнуўся амбасадар Францыі ў нашай краіне Стэфан Шмялеўскі.

"Мае калегі, амбасадары, кіраўнікі дыпламатычных місіяў дзяржаваў-сяброў Еўрапейскага саюзу (Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі, Швецыі) і ўступаючых у яго дзяржаваў (Латвіі, Літвы, Польшчы, Славакіі, Чэхіі, Эстоніі) і я асабіста ўважліва глядзім цыкл передачаў «Права человека – взгляд в мир», — піша Шмялеўскі. – Я адрасую вам гэты ліст таксама і ад іх імя". "Ведайце, – зьвяртаецца дыпламат да журналіста, — што не падман і не падача скажоных фактаў, якія ўтрымліваюцца ў вашых праграмах, выклікаюць зьдзіўленьне. Куды б ні накіравала нас нашае прафесійнае жыцьцё, мы даўно на розных геаграфічных шыротах сутыкаемся з прапагандысцкай хлусьнёй незалежна ад яе палітычнай афарбоўкі. Што нас зьдзіўляе, дык гэта тое, што сёньня і зараз зьяўляецца магчымай зьнявага беларускіх тэлегледачоў, якія ўводзяцца ў зман з дапамогай хлусьні".

У якасьці прыкладу Шмялеўскі прыводзіць перадачу ад 26 лютага, у якой Новікаў абвінаваціў ягонага суайчыньніка, генеральнага сакратара Міжнароднай Федэрацыі Правоў Чалавека Філіпа Кальфаяна "ў закліку да быццам бы ўзброенага супраціву супраць парушэньняў правоў чалавека", што, як піша амбасадар, "вядома, не адпавядае рэчаіснасьці". "У сваёй праграме вы папракаеце мяне і дзесяць маіх калегаў у тым, што мы прынялі ўдзел у адкрыцьці міжнароднай канферэнцыі па правах чалавека пад Менскам і заклікаеце МЗС Беларусі прачытаць нам сур'ёзную лекцыю, бо лічыце, што падобныя паводзіны быццам бы супярэчаць правілам дыпламатычнага этыкету".

"А колькі працы вам каштавала праілюстраваць вышэйузгаданы тэзіс і ваш зварот да Міністэрства замежных справаў вашай краіны! – працягвае Шмялеўскі. – Вы зьвяртаецеся да мантажу кадраў, якія адзьнятыя на іншых мерапрыемствах. (...) Ці, напрыклад, абвінавачаньне ва ўдзеле ў вулічных дэманстрацыях суправаджаецца паказам майго службовага аўтамабілю. Аднак гэта больш ня мой аўтамабіль, гэта – былы службовы аўтамабіль майго папярэдніка, які прададзены амбасадай ужо некалькі гадоў таму".

Акрамя таго, па меркаваньні амбасадара, Новікаў зрабіў "абсурднае параўнаньне" самагубства брытанскага эксперта ў галіне зброі масавага зьнішчэньня доктара Келі і "нявысьветленых зьнікненьняў" Віктара Ганчара ці Юрыя Захаранкі.

"Я хацеў бы нагадаць вам, што з пункту гледжаньня такіх замежных назіральнікаў, як мы, беларускай публіцы ўласьцівая сталасьць меркаваньняў і здольнасьць граматна весьці дыскусіі на любыя тэмы. Любы журналіст, варты гэтага імя, у такой краіне, як вашая, якая разьмешчаная на мяжы з пашыраным Еўрапейскім саюзам, павінен быў бы хутчэй спрыяць дадзеным дыскусіям, чым губляць час на рыторыку, якая засталася ў мінулым, прынамсі ў тых краінах Еўропы, якія суседнічаюць з Беларусьсю", — піша ў заключэньні Шмялеўскі.

# Беларускае тэлебачаньне «абразіла польскі народ і ўлады»

2 красавіка амбасада Рэспублікі Польшча ў Беларусі выступіла з заявай з нагоды выхаду ў эфір Першага нацыянальнага тэлеканалу праграмы «Права человека – взгляд в мир». «Беларускае дзяржаўнае тэлебачаньне вуснамі вядомага прапагандыста Яўгена Новікава... абразіла польскі народ і ўлады, калі назвала Рэспубліку Польшча, бліжэйшую суседку Беларусі, «марыянетачнай дзяржавай», – гаворыцца ў заяве.

У заяве падкрэсьліваецца, што тэлепраграма выйшла «ў той самы дзень, калі прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Сідорскі прыняў амбасадара Рэспублікі Польшча ў Беларусі, пра што ўсё тое ж дзяржаўнае тэлебачаньне паведаміла як пра галоўную палітычную падзею дня». Амбасада Рэспублікі Польшча нагадвае, што «Польшча зьяўляецца краінай, у якой улады выбіраюцца абсалютна дэмакратычным шляхам, зьяўляецца здаўна паўнапраўным сябрам Рады Еўропы, краінай, у якой жыхары нават самага невялікага пасёлку і вёскі маюць непасрэдны і выключны ўплыў на тое, хто засядае ў іх мясцовых органах улады і якія прымае рашэньні ад іх імя, нарэшце – краінай, якая ажыцьцяўляе суверэнную зьнешнюю палітыку». На думку заяўнікаў, згадваньне Польшчы як «марыянетачнай дзяржавы» «зьяўляецца сапраўдным паклёпам».

«Марыянетачным зьяўляецца, безумоўна, сам журналіст, які выконвае, праўдападобна, палітычны заказ колаў, зацікаўленых у пагаршэньні польска-беларускага супрацоўніцтва», -- гаворыцца ў заяве. «У сьвятле гэтых падзеяў спадара Новікава ўспрымаем ня толькі як падбухторшчыка варожых адносінаў да палякаў, але і як правакатара, чые дзеяньні скіраваныя непасрэдна супраць палітыкі беларускіх уладаў, якія імкнуцца палепшыць клімат нашых двухбаковых адносінаў». Амбасада Польшчы выказвае надзею, што «падобнага тыпу скандальныя выказваньні ў далейшым ня будуць мець месца на экранах Беларускага дзяржаўнага тэлебачаньня», — паведамляе прэс-служба БАЖ.

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220012 Менск, а/с 20.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ПЦ "Вясна"*